*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 43(99) ◈ 28 кастрычніка 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

**ДРУГІ ТЫДЗЕНЬ ПРАЦУЕ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, НА РАЗГЛЯД ЯКОЙ ВЫНЕСЕНА БОЛЬШ СТА ПЫТАННЯЎ.** Сярод галоўных — праект новай Канстытуцыі, рэферэндум, бюджэт, прыняцце вайсковай дактрыны, меры па сацыяльнай ахове насельніцтва. Адным з першых было прынята рашэнне аб павышэнні мінімальнай зарплаты да 2000 рублёў. Пенсіянерам, якія не працуюць, будзе даплачвацца да пенсіі 500 рублёў.

**НА ЗАКРЫТЫМ ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РАТЫФІКАВАЎ МІЖНАРОДНЫЯ ДАГАВОРЫ, ЯКІЯ ТЫЧАЦЦА СКАРАЧЭННЯ ЗВЫЧАЙНЫХ УЗБРОЕНЫХ СІЛ У ЕЎРОПЕ.**

**З ІНФАРМАЦЫЯЙ АБ СТАНОВІШЧЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ І МЕРАХ ПА ЯЕ СТАБІЛІЗАЦЫІ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ВЫСТУПІЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ.**

**МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПЕТР КРАЎЧАНКА НАВЕДАЎ ІТАЛІЮ,** дзе прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар вялікага асветніка Францыска Скарыны. Дошка ўстаноўлена на будынку Падуанскага універсітэта, у якім вучыўся наш славуты зямляк.

**НА 47-АЙ СЕСІІ ААН ПРАДСТАЎНІК БЕЛАРУСІ С. МАРТЫНАЎ ВЫСТУПІЎ ПА ПЫТАННЯХ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСПЕКІ.** Ён сказаў, што колькасны склад Узброеных сіл РБ не будзе перавышаць 100 тысяч чалавек.

**У КІНАЗАЛЕ ПАЛАЦА КУЛЬТУРЫ МЕНСКАГА АЎТАЗАВОДА АДБЫЛАСЯ ГАРАДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ВЫКАНАННЕ ЗАКОНА АБ МОВАХ У ГОРАДЗЕ МЕНСКУ».** Канферэнцыю арганізавала і правяла Менская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

## Мала, што пазбавілі роднай мовы. Цяпер хочуць зрабіць народ натоўпам вырадкаў і малпаў Стар. 3.

*Фотарэпартаж*

## ПРЫКЛАД ПАДАЕ МІНІСТЭРСТВА

Узброеныя сілы нашай рэспублікі пачалі практычнае выкананне праграмы вывучэння і паступовага пераходу на дзяржаўную мову. Прыклад у гэтай важнай справе паказваюць супрацоўнікі Міністэрства абароны.

У кожным упраўленні тут створаны вучэбныя групы, абавязковым стала вывучэнне беларускай мовы і ў сістэме камандзірскай падрыхтоўкі. Як і ў кожнай новай справе, праблем тут хапае. Самая большая — недахоп кваліфікаваных выкладчыкаў. У войску іх практычна няма, а вайсковыя навучальныя ўстановы спецыялістаў такога профілю, зразумела, пакуль не рыхтуюць.

На дапамогу вайскоўцам прыйшлі супрацоўнікі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Інстытута мовазнаўства АН. Так, заняткі ў адной з вучэбных груп вядзе супрацоўніца Інстытута мовазнаўства Марына Барысаўна Лычкоўская. Яна з усіх сіл намагаецца дапамагчы сваім новым вучням авалодаць беларускай мовай як мага хутчэй. Умовы для заняткаў створаны ў Міністэрстве нядрэнныя: ёсць лінгафонны клас, працуе бібліятэка метадычнай і вучэбнай літаратуры.

Але такія ўмовы існуюць не ў кожнай вайсковай часці, хоць і на месцах многае робіцца. Ва ўсіх вайсковых калектывах адабраны найбольш падрыхтаваныя афіцэры-беларусы, добра знаёмыя з роднай мовай. Яны і будуць праводзіць заняткі.

Дзеля павышэння метадычнага майстэрства афіцэраў — выкладчыкаў беларускай мовы Міністэрства абароны арганізавала трохдзённыя зборы. Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні збораў прынялі супрацоўнікі кафедры беларускай мовы БДУ.

**Л. ДУБАНЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**









**На здымках:** Марына Барысаўна Лычкоўская і падпалкоўнік У. Танана на занятках у лінгафонным класе.

## *Хрысціянская ўсялюбасць не для ўсіх?*

27 верасня актывісткі менскай суполкі Хрысціянска-дэмакратычнага жаночага руху Беларусі (ХДЖРБ) спецыяльным аўтобусам ездзілі ў Полацк на святкаванне 1000-годдзя хрысціянства на Беларусі. У складзе групы былі хрысціяне розных веравызнанняў, але ўсіх аб'ядноўвала выява беларускага шасціканцовага крыжа святой Ефрасінні Полацкай на нашым аўтобусе, дзяржаўныя бел-чырвона-белыя сцягі.

У Полацку мясцовыя грэка-каталікі (уніяты) запрасілі нас на ўрачыстае набажэнства ў гонар 1000-годдзя хрысціянства. Пасля набажэнства мы разам з тутэйшымі уніятамі накіраваліся да царквы Ефрасінні. На падыходзе да храма дарогу загарадзіў атрад міліцыі і АМАП. Ісці далей нам не дазволілі, здзекліва падкрэсліваючы, што гэта, маўляў, праваслаўнае свята і таму уніятам няма чаго тут рабіць. На адказ, што 1000-годдзе Полацкай епархіі — свята не толькі праваслаўнай царквы, а ўсіх беларускіх хрысціян, што сюды запрошаны прадстаўнікі іншых хрысціянскіх канфесій, пачулася патрабаванне кінуць нашы бел-чырвона-белыя сцягі. Сваё абурэнне я выказала аднаму з афіцэраў міліцыі, а той (прозвішча сваё назваць адмовіўся) нахабна прызнаўся, што гэты сцяг яму «до фени». Вось так!

Толькі ўмяшанне ў справу дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі (прозвішча якога не ведаю) дапамагло нам, урэшце, прайсці праз міліцэйскі заслон. Але без сцягоў. Мы пакінулі іх ахоўваць спадара Юхо з Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Сама ж Ефрасіння Полацкая зрабіць гэта пакуль што не можа: упарта не дазваляюць праваслаўныя святары...

г. Менск. **Ніна БАГІНСКАЯ.**

*Драмы падпіскі-93*

## Давайце наладзім узаемадапамогу

Шаноўныя чытачы «Нашага слова»! Звяртаюся да Вас за маральнай падтрымкай. Справа ў тым, што я ніяк не здолею пераехаць на сталае жыхарства на Бацькаўшчыну, за межамі якой жыву ўжо амаль два дзесяцігоддзі. На Украіне зараз шырока ідзе працэс украінізацыі, а мне б хацелася застацца ўсё ж беларусам... Да апошняга часу я мог сябе падтрымліваць у гэтым імкненні: ездзіў у Менск за беларускамоўнай літаратурай, выпісваў амаль усе беларускамоўныя газеты і часопісы, слухаю па прыёмніку перадачы беларускага радыё. У маёй кватэры навідавоку стаіць бел-чырвона-белы сцяг і вісіць «Пагоня». Таму кожны, хто завітвае ў госці, без пытанняў бачыць, што я беларус, што жыву марай аб Беларусі... Але жыць толькі марай ой як цяжка! І вось у гэтым годзе нас — беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны,— пазбавілі магчымасці ў 1993 годзе нават чытаць такія выданні, як «Наша слова», «ЛіМ», «Свабода», «Спадчына», «Настаўніцкая газета», «Роднае слова», «Бярозка», «Полымя», «Маладосць». Усяго, апрача «Звязды», «Вожыка», «Беларусі» і «Работніцы і сялянкі», якія ў расійскі каталог нейкім чынам патрапілі.

«Русскоязычные» супрацоўнікі Міністэрства сувязі і інфармацыі вырашылі пазбавіць (за нашыя ж грошы) нас магчымасці чытаць надалей патрыятычныя выданні, якія ідуць у авангардзе беларускага Адраджэння. Але мы не павінны апускаць рукі ў барацьбе з тымі, хто ў каталог замест «Нашага слова», «ЛіМа» і «Свабоды» падсунуў бульварныя жоўтыя лісткі тыпу «Мы и время», «Славянские ведомости», «Семь дней»...

Давайце пасябруем і будзем дапамагаць адзін аднаму. Скажам, хтосьці з Вас хоча чытаць нейкае ўкраінскае выданне. Калі ласка, вы для мяне ў сябе падпісваецеся на «Наша слова», «ЛіМ», «Свабоду» і г. д., а я тут для Вас выпісваю любое ўкраінскае выданне. А праз месяц-два робім пераадрасоўку: я вам — у Беларусь, а Вы мне — на Украіну.

І яшчэ я б вельмі хацеў пасябраваць з усімі сапраўднымі беларусамі, весці з імі ліставанне. Калі ласка, напішыце мне на адрас: 281200, м. Ізяслаў Хмяльніцкай вобласці, вуліца Незалежнасці, 21, кв. 2. Украіна.

**Пятрусь КАПЧЫК.**

## ПАДПІСКА ЗАБАРОНЕНА?

Пішу, каб пацвердзіць сваё жаданне прадоўжыць падпіску на «Наша слова» ў наступным годзе. Немагчымасць падпіскі на «Наша слова» за межамі Беларусі для тых, хто гэтага жадае, недапушчальна. Пра далейшы лёс падпіскі для нас, беларусаў, якія жывуць у розных краінах СНД, прашу даць інфармацыю ў газеце.

**К. ЛУСТАЧ.**

п. Умба Мурманскай вобл.

### ДА ВЕДАМА ПАДПІСЧЫКАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Шаноўнае спадарства! Калі вы хочаце атрымоўваць «Наша слова» і ў наступным, 1993 годзе, просім тэрмінова пісьмова звяртацца па гэтым пытанні ў сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

Паведамляем таксама, што зараз у рэспубліцы цэнтралізавана ажыццяўляюцца практычныя захады, каб беларускамоўная перыёдыка (у тым ліку і газета «Наша слова») трапілі ў каталог газет і часопісаў на другое паўгоддзе наступнага года, які для краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў збіраецца выпусціць рознічна-падпісное агенцтва «Роспечать» Міністэрства сувязі Расіі.

## З НАДЗЕЯЙ НА БУДУЧАЕ

***У АКТАВАЙ** зале менскай беларускай сярэдняй школы № 38 напярэдадні навучальнага года сабраліся людзі, якіх хвалюе пытанне нацыянальнага Адраджэння — настаўнікі беларускамоўных класаў, школьныя выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, выкладчыкі ВНУ (В. А. Бекіш, А. У. Рагуля — Менскі педінстытут, В. В. Каваргові — Радыётэхнічны інстытут), прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, раённага і гарадскога аддзелаў асветы, дырэктары школ, старшыня ТБМ Фрунзенскага раёна, старшыня рады БНФ раёна, члены бацькоўскага камітэта. Сабраліся, каб прааналізаваць вынікі работы педагагічных калектываў школ Фрунзенскага раёна па выкананні Закона аб мовах, абмяняцца вопытам работы, сумесна вызначыць шляхі яе паляпшэння.*

Тон задалі гаспадары. Дырэктар сярэдняй школы № 38 Галіна Васільеўна Міхайлоўская спярша прапанавала ўдзельнікам нарады агледзець класы, а таксама кабінеты беларускай мовы і літаратуры. Кожны кабінет (а іх у школе тры) аформлены па-свойму. Няма і звання былой казёншчыны і пакланення правадырам «кіруючай і натхняючай». У адным класе над дошкай герб Вялікага княства Літоўскага ў афармленні вянка з жытнёвых каласоў і васількоў, у другім — выява сонейка, промні якога, зробленыя з залацістай саломкі, нібы ўвабралі цеплыню лета. Здымкі помнікаў архітэктуры, партрэты беларускіх пісьменнікаў, урыўкі з іх твораў. Вось партрэт М. Танка і радкі, што сталі класікай: «З легендаў і казак былых пакаленняў...» Ручнікі, нацыянальныя касцюмы на ляльках. У адным з класаў партрэт маці Я. Коласа (гэта ўжо з мастацкага музея). Паміж радамі парт дошчачкі падлогі размаляваны ў розны колер, і здаецца, што пасланы сапраўдныя палавікі. Клас набыў святочны выгляд. У адным з кабінетаў адмысловыя карнізы з нацыянальным арнаментам. Яны зроблены вучнямі IV класа. Наогул, усё зроблена з вялікай дасціпнасцю і далучае гарадскога школьніка да роднага і дарагога.

Асабліва ўразілі пакоі для пачатковых класаў — утульныя, светлыя, аформленыя з вялікай любоўю і не традыцыйна. Тут нават парты расстаўлены неяк без казёншчыны, без прасталінейнасці.

Пасля экскурсіі па школе прысутным паказалі кадры-слайды, якія каменціравала намеснік дырэктара сярэдняй школы № 136 Таццяна Іванаўна Смаглікава. І зноў выразныя выявы той карпатлівай работы, што вядзецца ў Фрунзенскім раёне па адраджэнні нацыянальнай мовы, культуры і гісторыі. Яна пачынаецца з дашкольных устаноў, і прысутныя бачаць на экране кадры з жыцця дзяцей у садках «Вясёлка», «Верасок», «Пралеска». Адчуваецца, што тут працуюць улюбёныя ў сваю справу і роднае слова педагогі.

Дарэчы, першы беларускамоўны клас у Фрунзенскім раёне быў адкрыты ў сярэдняй школе № 180 яшчэ ў 1987 годзе. У 1991/92 навучальным годзе іх было ўжо 7. У 1989 годзе ў раёне адкрыта першая ў рэспубліцы беларускамоўная школа з тэатральным ухілам. Тут дзеці з першага класа не толькі вывучаюць прадметы на беларускай мове, але і знаёмяцца з элементамі акцёрскага майстэрства, развіваюць музычны слых. Працуюць тут высокакваліфікаваныя спецыялісты, у іх ліку работнікі сталічных тэатраў. Ну, а на сённяшні дзень у раёне лік вядзецца не на беларускія класы, а на школы: іх ужо 14. Сярэдняя школа № 198 стала гімназіяй, а № 158 — ліцэем.

У сваіх выступленнях кіраўнікі школ, настаўнікі гаварылі больш аб праблемах і недахопах. Так, намеснік дырэктара беларускай гімназіі Галіна Фёдараўна Рамановіч адзначыла, што жадаючых вучыцца ў гімназіі вельмі многа. Планавалі 6 класаў, а давялося адкрыць 9, і, тым не менш, не змаглі задаволіць усіх жадаючых. Вельмі хвалюе пытанне з выданнем беларускамоўных падручнікаў. Іх не хапала ў мінулым навучальным годзе. У гэтым — няма падручніка па матэматыцы для I класа. Няма дзіцячай мастацкай літаратуры на беларускай мове. Кнігі дарагія. Пачаў выдавацца добры часопіс «Пачатковая школа», але ўвесь час выходзіць са спазненнем, а карысці ад яго ў такім разе мала.

Галіна Фёдараўна засяродзіла таксама ўвагу прысутных на тым, што ўжываць родную мову — яшчэ далёка не значыць быць патрыётам сваёй радзімы, што, гаворачы пра адраджэнне, задачу трэба разумець шырэй. І расказала, што робіцца, каб далучыць вучняў да роднай культуры, гісторыі: пра цесную сувязь з Тэатрам юнага гледача, пра абмеркаванне спектакляў, пра экскурсіі ў музеі і гістарычныя мясціны, пра сустрэчы з пісьменнікамі і мастакамі, вучонымі і іншымі цікавымі людзьмі.

Настаўніца пачатковых класаў Тамара Паўлаўна Сядлецкая гаварыла, што мала метадычнай літаратуры, няма зборнікаў тэкстаў для дыктантаў, няма дыяфільмаў на беларускай мове, камплектаў партрэтаў беларускіх пісьменнікаў, беларускай сімволікі, яе апісання. А дзе ўзяць зборнікі беларускіх песень для дзяцей?

Прадстаўнікі ВНУ гаварылі пра падрыхтоўку педагагічных кадраў для беларускай школы. В. А. Бекіш адзначыў, што ў педінстытут апошнім часам прыходзіў вельмі інертны абітурыент, і прапанаваў адкрываць больш беларускіх гімназій і ліцэяў, каб з іх дапамогай адбіраць лепшых і зацікаўленых у справе адраджэння вучняў з VIII па X клас. Толькі так мы будзем праз 2-3 гады мець людзей, якія змогуць актывізаваць працэс беларусізацыі на любым участку, падкрэсліў прамоўца. Сёння ж мы з-за адсутнасці патрэбнай колькасці месцаў у гімназіях і ліцэях вымушаны адмаўляць значнай колькасці добрых вучняў. Прымаць трэба ўсіх жадаючых, улічваючы толькі ўзровень ведаў, а не колькасць месцаў на сённяшні дзень.

А. У. Рагуля гаварыў, што наша вышэйшая кіраўніцтва не зацікаўлена ў нацыянальным развіцці і адраджэнні. Гэтым тлумачыцца і замаруджанасць працэсу. Ён звярнуў увагу на факт, што па сённяшні дзень у школе курс сусветнай літаратуры вядзе настаўнік рускай мовы, а не роднай, які мог бы ў працэсе выкладання накіраваць думку вучняў на параўнанне нашых багатых набыткаў з сусветнымі, убачыць і зразумець ролю беларускай літаратуры і культуры.

Да многага яшчэ ў нас, зазначыў прамоўца, як кажуць, не даходзяць рукі, а яно ўрэшце адмоўна адбіваецца на свядомасці вучняў. Напрыклад, прыём у беларускамоўныя ліцэі і гімназіі праводзіцца па тэстах, складзеных на... рускай мове (?!). І калі з гэтым можна неяк пакуль пагадзіцца пры прыёме, то ніяк нельга, калі дзіця правучылася некалькі год на беларускай мове. Можна падумаць, што ў рэспубліцы няма добрых вучоных-псіхолагаў, якія склалі б неабходныя тэсты з улікам псіхалогіі менавіта нашага дзіцяці, нашых нацыянальных асаблівасцей. Такая абыякавасць, маруднасць будзе дорага каштаваць Беларусі.

Многае зроблена ў школах раёна, але наперадзе велізарная работа. І кладзецца яна ў асноўным на плечы настаўнікаў. Відаць, не кожны з іх робіць яшчэ усё як належыць, пра што гаварыла загадчык раённага аддзела асветы Таццяна Аляксандраўна Замыслава, не ўсюды абсталяваны належным чынам кабінеты, не ўсюды ёсць класы з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры, факультатывы па беларускай мове, не праводзіцца належная работа з бацькамі і інш., але і самім настаўнікам дапамога патрэбна сёння як ніколі вялікая. І перш за ўсё неабходна друкаванае слова: тут і творы мастацкай літаратуры, прадугледжаныя праграмай, і дыдактычныя матэрыялы, метадычныя і наглядныя дапаможнікі, разнастайныя зборнікі, дапаўненні да існуючых падручнікаў і, вядома, самі падручнікі. Без усяго гэтага цяжка працаваць. Калі яшчэ ў горадзе можна знайсці патрэбны матэрыял у бібліятэцы, у сяброў з суседняй школы, то куды складаней сельскаму настаўніку. Прыкра, што ў падрыхтоўцы да ўрокаў ці да пазакласных мерапрыемстваў ён павінен траціць дарагі свой час на пошукі патрэбнага матэрыялу. Пара людзям, якія адказваюць за працэс,— я маю на ўвазе Міністэрства адукацыі з яго навуковымі і метадычнымі ўстановамі, — адчуць па-сапраўднаму сваю віну і адказнасць.

Апраўдвацца можна — прычын многа. Звычайна цяпер гавораць пра недахоп паперы, пра яе дарагавізну, гіганцкія выдавецкія выдаткі. Але можна паставіць пытанні і так, як гэта зрабілі настаўнікі: дзе тая папера, якая павінна ісці на адраджэнне? Што, нацыянальная самасвядомасць падрастаючых пакаленняў, патрыятызм узнікнуць з паветра? Чаму кіёскі запоўнены нізкапробнай бульваршчынай на рускай мове? На гэта, аказваецца, і паперы хапае. І міжволі паўстае яшчэ адно пытанне: хто ж гаспадарыць у нашай хаце? Калі не ўдасца хутка падрыхтаваць надзейную нацыянальна свядомую новую змену, лічаць настаўнікі, сядзець ды сядзець нам у балоце таталітарызму і з зайздрасцю паглядаць, як жывуць у поўным сэнсе гэтага слова людзі ў цывілізаваных краінах свету.

**Г. ХАТКЕВІЧ.**

# МАЛА, ШТО ПАЗБАВІЛІ РОДНАЙ МОВЫ. ЦЯПЕР ХОЧУЦЬ ЗРАБІЦЬ НАРОД НАТОЎПАМ ВЫРАДКАЎ І МАЛПАЎ

Ні для каго не сакрэт, што значная частка нібыта «свабодных» рускамоўных сродкаў масавай інфармацыі прама ці закамуфлявана кантралюецца былымі кампартыйнымі начальнікамі, што зашыліся ў спецыяльна падрыхтаваныя камерцыйныя структуры. Менавіта адсюль вядзецца моцны прапагандысцкі наступ на насельніцтва з мэтай канчатковага разбурэння яго нацыянальнай самасвядомасці. Але нашым «інтэрнацыяналістам» гэтага паказалася мала. Адкінуўшы прэч усялякія рэшткі прыстойнасці, яны распачалі атаку на нормы маралі. На тое, што на працягу многіх стагоддзяў з такой цяжкасцю пераўтварала малпу ў істоту разумную, развіваючы ў ёй сумленне і боскасць. Сітуацыя складваецца крытычная. У такім становішчы мала лямантаваць, як гэта робяць апошнім часам журналісты з «Народнай газеты», з выпадку таго, што пад'езды і нават ліфты нашых дамоў самі жыхары ператвараюць у зэкаўскі сарцір, мала надрукаваць споведзь мільянера, які хоча пабудаваць уласны асабняк, каб не чуць болей п'яных дэбошаў суседа-пралетара ды не пэцкаць модныя штыблеты ў камуністычна-дэмакратычным дзярме. Куды больш рашуча і грунтоўна асэнсоўвае пытанне менская гарадская газета «Добры вечар». На думку яе аўтараў, справа не толькі ў бальшавіцкай практыцы ў мінулым, якая ператварала насельніцтва ў патэнцыяльных зэкаў. Справа таксама і ў сучасных дзеяннях пэўных структур, да якіх, магчыма, мае дачыненне і той мільянер з «Народнай газеты», што марыць схавацца ад рэчаіснасці за сталёвымі варотамі ўласнай вілы. Але ад таго, што на ўсіх нас плыве, такім чынам не ўратуешся. Пра гэта красамоўна сведчыць і матэрыял «Спасите наши души», апублікаваны ў «Добрым вечары» (5.10.92) — адказы намесніка старшыні Менскага гарадскога выканкама Аляксандра Сасноўскага карэспандэнту газеты. Матэрыял гэты варты таго, каб з яго зместам пазнаёміліся добрыя людзі па ўсёй Беларусі. Апублікаваны ён на рускай мове, хоць у «Добрым вечары» не цураюцца і беларускай, — магчыма, для таго, каб яго не прамінулі і нашы «інтэрнацыяналісты», якія паставілі свае гадзіннікі на «европейское время», але дзіўным чынам звяраюць іх з расійскім. Падаём яго ў перакладзе і з нязначнымі скарачэннямі.

— Мы можам гаварыць пра тое, што камерцыйныя структуры, асабліва камерсанты парна-бізнесу, — сказаў намеснік старшыні Менскага гарвыканкама Аляксандр Сасноўскі, — павялі магутнае наступленне на чалавечую асобу, на псіхіку. А самае страшнае, — падкрэсліў ён, — разбураюцца святыя адносіны да жанчыны як да маці. Паколькі ва ўсіх сюжэтах (ці гэта ў кнігах, ці ў кіно і інш.) яна падаецца не як прадаўжальніца роду чалавечага, ахоўніца ачага, а як прылада сексуальнай асалоды мужчыны, як машына для задавальнення самых вырадкавых сексуальных патрэб.

— А ўсё ж гэта бачаць яшчэ і дзеці, падлеткі, — дадала карэспандэнт.

— Так, — пагадзіўся суразмоўца. — А яшчэ горш, што ў нас сёння адсутнічае нават нармальны прававы асяродак. У дэмакратычных краінах тут вельмі выразна пастаўлены прыярытэты з пункту гледжання закону. Калі ёсць катэгорыя дарослых людзей, якія без сэкс-допінгу не могуць абысціся, то яны могуць зрабіць гэта, карыстаючыся закрытым відэаканалам. На Захадзе тэлеэкран, адкрыты для ўсяго насельніцтва, значна чысцейшы, чым наш, перадачы высокапрыстойныя, а для дзяцей — нават без намёку на эротыку, не гаворачы ўжо аб прамым паказе. А сексуальна закланочаныя могуць падключацца за асобую плату толькі да закрытага відэаканала.

У нас дзяржаўнае тэлебачанне, — заўважыла карэспандэнт, — актыўна ўдзельнічае ў разбэшчванні дзяцей. Атрымліваецца, што дзяржава ваюе з сям'ёй!

— І відэапорнапрадукцыя, — сказаў А. Сасноўскі, — нават яшчэ небяспечней друкаванай, якой цяпер беспакарана гандлююць паўсюдна. Асабліва бессаромна паводзіць сябе Цэнтральнае тэлебачанне. Мы некалі дзівіліся, што ў Кіргізіі забаранілі паказ маскоўскіх праграм. Там рэлігія стрымлівае і нацыянальная самасвядомасць. Каран не дазваляе ўсе гэтыя штукі паказваць бессаромна. Ёсць каму сачыць за маральным здароўем свайго народа.

— Вы лічыце, што ідзе мэтанакіраванае разбурэнне нацыі? — пытае карэспандэнт.

Суразмоўнік пагаджаецца: так, ідзе мэтанакіраванае разлажэнне нацыі, забіванне душ цэлых народаў.

— Значыць, некаму гэта трэба?

— Выходзіць, так, — пагаджаецца А. Сасноўскі. — Думаю, наспела неабходнасць прыняць закон аб грамадскай маралі. Дарэчы, на Захадзе парна-бізнес абкладаецца вельмі вялікімі падаткамі, і, атрымліваючы гэтыя грошы, дзяржава выкарыстоўвае іх для ўмацавання здаровай маралі, скажам так, нармальных членаў грамадства.

— Вось Вы казалі, — заўважыла карэспандэнт, — што кіргізам па Карану забаронена глядзець непрыстойнае. Але ж гэта паказваюць, не лічачыся ні з рэлігійнымі пачуццямі, ні з нацыянальнымі традыцыямі нашых людзей. Кіргізаў дык не адважыліся «выхоўваць» ды рабіць іх «звышсучаснымі», а беларусаў чамусьці ўвесь час хочуць зрабіць кім каму ўздумаецца — амерыканцамі, заходнееўрапейцамі ці яшчэ нечым.

Сп. А. Сасноўскі пагадзіўся, што, сапраўды, беларусам увесь час навязваюць чужое, разбураючы ягоную самасць. «Але ці ж можна, — заўважыў ён, — параўнаць нацыянальную самасвядомасць, скажам, нашу і амерыканца ці індыйца?.. У нас заўсёды секс быў дастаткова закрытай тэмай. А бацькі ніколі не абмяркоўвалі такое ў прысутнасці дзяцей. Гэта нацыянальная своеасаблівасць славян. Не, знайшліся дзялкі, якія гэта імкнуцца разбурыць, «выхоўваюць». Нават выдаюць кніжку пра секс для дзяцей!.. Можа, недзе так прынята, каб бацька з маці займаліся сексам у прысутнасці малых, а ў нас падобнае лічыцца вар'яцтвам. І хто дакажа, што гэта дрэнна?!»

— Тым не менш, — заўважае карэспандэнт, — чуваць галасы толькі гэтых новых «асветнікаў».

— Сёння стварылася такая сітуацыя, — пацвярджае намеснік старшыні Менскага гарвыканкама, — што калі чуецца цвярозы голас у абарону духоўнага здароўя нацыі, то адразу знаходзіцца некалькі такіх, хто яго неадкладна аплёўвае: маўляў, у яго састарэлыя погляды. З яго робяць недалужнага, які не дарос да разумення сексуальных праблем. Гэта, крычаць, нават не дэмакрат, а сталінец.

На іранічную заўвагу карэспандэнта, што тут, сапраўды, магчыма новая з'ява ў мастацтве — нейкі «дэмакратычны рэалізм», А. Сасноўскі слушна адказаў, што калі браць пад увагу такую езуіцкую логіку, то трэба паказваць і ўсе іншыя натуральныя адпраўленні чалавека. Напрыклад, усе ведаюць, што людзі ходзяць у прыбіральню, то тады трэба паказваць, як гэта робіцца? Нас з усяе сілы стараюцца зрабіць рабамі масавай культуры, — дадае ён. — Зрабіць нас Іванамі, якія не помняць сваіх родзічаў, так бы мовіць, людзьмі натоўпу «без забабонаў».

— І ў першую чаргу стараюцца маральна разбурыць малалетак, — кажа карэспандэнт. — А тыя з натуральнай дзіцячай цікаўнасцю ўглядаюцца ў атрутны хатні тэлеэкран, на кніжныя прылаўкі. Праходзяць, так бы мовіць, паскораны курс разбэшчвання.

— Так, адбываецца сапраўдная навала, — пацвярджае А. Сасноўскі.

Карэспандэнт выказала сваё ўражанне, што ўлады заадно з такой палітыкай, з камерсантамі ад парнабізнесу.

Адказ А. Сасноўскага, што ўлады проста яшчэ «гэтай праблеме не надалі адпаведнага значэння», выглядае не вельмі пераканаўчым, асабліва, калі параўнаць яго са сказаным вышэй самім жа спадаром. З надзеяй успрымаецца абяцанне аднаго з кіраўнікоў гарадскіх улад Менска ў самы бліжэйшы час навесці адпаведны парадак у сталіцы рэспублікі, каб абараніць нашых дзяцей ад погані. Але зноў жа застаецца адкрытым пытанне, як тое зрабіць і эфектыўна і законным шляхам, калі Вярхоўны Савет не прыняў адпаведнага закона.

**Л. М.**

# З праграмнай заявы арганізацыі «Выбранецкія шыхты»

Гістарычныя выбранцы — ваенна-служылая група сялян і шляхты ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI — XVIII ст...

Сучасныя выбранцы аб'ядноўваюцца праз грамадскую арганізацыю, якая ставіць перад сабой задачу выпрацоўкі і рэалізацыі ўласных надыходаў да вырашэння праблем, што стаяць ці паўстануць перад этнасам з мэтай абароны ягоных спрадвечных духоўных каштоўнасцей і гістарычна-прыроднага патэнцыялу...

Вялікае княства Літоўскае — магутная краіна, якая існавала на нашых этнічных землях у XIV—XVII ст., знішчаная праз шматгадовую метадычную палітыку заходніх, усходніх і паўднёвых суседзяў...

Дзеля пераемнасці гістарычнай, культурнай і нацыянальнай традыцыі... выступаюць за вяртанне ва ўжытак гістарычнага і Дзяржаўнага тэрміна «Літва». У прыватнасці, назву сучаснай Рэспублікі Беларусь прапануецца замяніць на «Беларуская Літва».

...У сучаснай беларускай дзяржаве права прыватнай уласнасці на зямлю і на займанне пасад у органах дзяржаўнай улады і... нацыянальнай абароны павінна быць замацавана за карэннымі жыхарамі Беларусі (Беларускае Літвы).

...Адрыў ад беларускай этнічнай тэрыторыі любой яе часткі наносіць шкоду паўнавартаснаму развіццю ўсяго беларускага этнасу. Выбранцы лічаць, што здаровае і стабільнае развіццё нацыі, цэльнае скарыстанне нацыянальнага патэнцыялу магчымы толькі пры лучнасці ўсіх беларускіх этнічных земляў.

Выбранцы падтрымліваюць нацыянальную буржуазію, якая лічыць за свой клопат стварэнне незалежнай нацыянальнай эканомікі і дзяржавы...

**Чакаем прапаноў, заўваг, парад, інфармацыі: 220047, Менск-47, п/с 454 «Выбранецкія шыхты».**

# Бізнес і беларускасць

**Наўрад ці на старонках «Нашага слова» варта весці гаворку пра эканамічную мэтазгоднасць адраджэння і пашырэння ўжытку роднай мовы. Ёсць, несумненна, гэтая мэтазгоднасць, бо ў грамадстве ўсё паяднана — культура, асвета, мастацтва, эканоміка... І якраз мова — родная і адзіная — можа падштурхнуць Бацькаўшчыну да цывілізаванай культуры.**

Такія прыкладна думкі ўзніклі на прэс-канферэнцыі, наладжанай польска-беларускай гандлёва-прамысловай палатай і «АБІ кампаніяй», створанай пры палаце. На пытанні журналістаў (прадстаўнікоў беларускамоўнай прэсы на сустрэчы з бізнесменамі было мала) адказвалі Валерый Какоўкін і Наталля Сядронак. Першы — дырэктар гандлёва-прамысловай палаты. А Наталля Іванаўна ўзначальвае «АБІ кампанію».

Гутарка ад размоў надзённых, аб тым, у прыватнасці, што набліжаецца выстава «Усходнія таргі», непрыкметна перайшла да праблем беларускага бізнесу. Мяне зацікавіла: ці ёсць адметнае аблічча, свой нацыянальны твар у беларускага бізнесу?

Наталля Сядронак пачала з невялікага адступлення. Паведаміла, што па прадпрымальніцкіх клопатах пабывала ў Германіі. І замежныя калегі, людзі, дарэчы, апаратыўнасці якіх можна пазайздросціць, чамусьці лічылі, што наш Менск знаходзіцца... на Украіне. Што ж тут ужо пра беларускую мову казаць?!

А бізнес, працэсы прадпрымальніцтва ўвогуле маглі б, між іншым, зрабіць шмат у адраджэнні роднага слова. Праўда, марудзяць у гэтай справе... Хто марудзіць? Мы самі: беларускамоўны друк, самі бізнесмены...

Але не ўсё гэтак змрочна. Ёсць тут першыя станоўчыя ўсходы. У друку ўжо з'явілася шырокая інфармацыя пра фірму «Дайнова», пра акцыянернае таварыства «Кросны»... Прагучала таксама пажаданне пра стварэнне асацыяцыі беларускамоўных прадпрыемстваў. А следам — сапраўдныя рэпрэсіі. Таму-сяму адразу адмовілі ў банкаўскім крэдыце ці рахунак «перакрылі»... Таму пакуль што не хочуць занадта сябе «раскрываць» беларускамоўныя бізнесмены. Нават ад інтэрв'ю адмаўляюцца. У такой сітуацыі ўжо не да прапаганды беларускамоўя ў прадпрымальніцтве!

Куды, адным словам, ні глянь — адны пытанні. Хто ж адкажа на іх? Хто здолее аб'яднаць бізнес з родным словам? Відаць, пачаць неабходна з перыядычнага друку. І няхай да справы адразу далучыцца радыё і тэлебачанне. Чаму б не зрабіць беларускамоўным змест усёй без выключэння рэкламы? Няўжо не можам мы паклапаціцца пра каларытны беларускамоўны, выразна нацыянальны дызайн? Тыя ж немцы, наведваючы Беларусь, адчулі б і зразумелі, куды, у якую краіну яны прыехалі.

І толькі тады, відаць, калі гэта адбудзецца, у свеце, урэшце, нас заўважаць, а пасля і пачнуць паважаць...

**Алесь КУТ.**

Язэп ГЕРМАНОВІЧ

# ЗРАБІЎ ШТО МОГ

*(Працяг. Пачатак у №№ 39—42).*

Хоць новая кватэра нам добра пасавала, аднак мы ў ёй доўга не пагасцілі. Думаю, прычына была тая, што мы не змаглі аплачваць шыкоўную для нас хату. Дык мы яшчэ раз асталіся бабылямі: матка хадзіла па заработках і брала з сабой Людвіню, а мяне закінула да Савіцкіх, праўда, на карацейшы тэрмін. У гэтым перапынку здарылася няшчасце: матка цяжка захварэла на дызентэрыю! Толькі Бог засцярог, што не памерла, бо хвароба пагражала смерцю.

У гэтую восень дзядзькі яшчэ даканчвалі народную школку, малодшы заўсёды прыходзіў на абед, а старшаму давалі «лусту» ў школу, бо ён аставаўся там без абеду. Помню, што паўтаралася такая гісторыя нярэдка. На мяне школка зрабіла моцнае ўражанне, і я дамагаўся, каб і мяне паслалі туды.— аж ледзь мяне пераканалі, што ў сярэдзіне года нельга пайсці, і трэба пачакаць да восені!

Я ж быў хлопцам вельмі вясёлым, скакуном, крыкуном — нястомным і неспакойным — усюды мяне было поўна! Аднойчы лютай зімой вечарам, калі пільна было нагрэць печ, а запасных дроў бракавала, дык у Савіцкіх унеслі калоду ў хату. Адны яе трымалі на зямлі, а другія пілавалі, а я ўсім замінаў: круціўся каля рук, пакуль галавой аб нешта не грукнуўся. Засвяціліся аж іскры ў вачах! Мяне паднялі, да шчакі нечым прыкладалі, каб адцягнула гарачку. А я плакаў нястрымна...

Разам са школай у мяне пачаўся новы этап жыцця. А якраз з гэтым мы перайшлі на новую кватэру да цёткі Марылі Трацячыхі. Тут гаспадаром быў Антон Трацяк, муж Марылі. Іхны дом быў на той самай Ашмянскай вуліцы, толькі значна далей ад рынку і ад касцёла. У іх была маленькая дачушка, вельмі прыгожая дзяўчынка, якая пасля памерла. Сам Антон Трацяк быў чалавекам адметнага складу і характару.

У маім жыцці наступіў новы пералом: я адразу дастаў два ганаровыя абавязкі. Зімой стаў вучнем народнае школы, а летам — пастухом цётчынай каровы і цялушкі. Гэта трывала 4 гады, ад 1898 да 1902 года. Пачуваўся я, нязмерна здаволены новым назначэннем, бо пачуў у сабе вартасць чалавека, з якім ужо лічыцца грамадства. Ды і матка казала: «Ну сынок, дарма хлеба есці не будзеш!» Сястра Людвіня таксама паглядзела на мяне з большай увагай і адпаведна настроілася ў размове на больш паважны тон, ад гэтае пары мы ўжо менш сварыліся.

### IV. ПРЫРОДА — НЕБА І ЗЯМЛЯ

Ад малых гадоў я вельмі цікавіўся з'явішчамі на небе і на зямлі. Пакуль мы жылі на Трабскай вуліцы ля берага ракі Гальшанкі-Жыгянкі, дык на ёй млын, мост і стаў — вялізны, заросшы аерам і воднымі ліліямі, белымі і жоўтымі,— вечна шумячая вада з-пад двух колаў, розны народ ля млына — усё гэта ажыўляла наваколле і адбілася жывымі ўспамінамі ў мяне.

Вада ў быстрай рэчцы была чыстая і празрыстая, дно пясочнае светла-жоўтае, маса рознай рыбы, ідэальнае купанне для вялікіх, малых і найменшых — таксама сталася памятнае мне на ўсё жыццё.

Вада была сапраўды жывая і рухомая, павольная у ставе, а шыбкая ў сплыве. Гэта для нас, малых, замяняла цяперашнюю тэлевізію, тэатр, кіно і панараму! А зімой на рэчцы коўзанка: санкі на якіх з'язджалася на ўсім працягу нядоўгай вуліцы — аж да самага ставу, дзе была палонка на ваду. Як біліся снежкамі, дык заганялі слабейшых аж да ставу ці да млына. Дый яшчэ трэба ўспомніць, як адчыняў мельнік застаўку на лішнюю ваду і спускаў збытак, дык гэта была раскоша ўсім купальшчыкам, бо голенькім сядалася на струмень вады і звальвалася з вадой у спуск, куляючыся і смеючыся! А якое відовішча, калі гуляла сонейка, адбіваючыся ў спуску вады, як вясёлка, як маланка, у тысячах люстэрак вадзіцы!

А ўспомніць прасторы лугоў за ракою, шырокія нівы жыта, аўса і іншае збажыны. Далей ішоў лес «Горкі» і велізарны бор...

І неба лучылася з вадою, адбівалася раніцай ці надвечар, калі ў пагоду бачыўся мястэчковы касцёл, само мястэчка на прыродным фота ў вадзе Гальшанскага ставу. Перш адсвечваліся вольхі і цудоўны малады бярэзнік з татарскага фальварка.

Дарожка між млыном вуліцы Трабскай і другім млыном на вуліцы Вішнёўскай (Замковай) была цудоўнай пагулянкай! Бо рэчка то хавалася ў зараслях, то фатаграфавала сасоннікі, растучыя на ўзвышшы і на ўзгорках, а прытым рабіла неспадзяваныя згібы і петлі або затокі — праймаючая паэзія ў прыродзе. Бывала, ідзеш доўга, але ніколі не справішся з бегам вады і з працягам ракі, якая гіне ў далечыні, плывучы праз Багданава, Вішнева і ў прасторы Налібоцкае пушчы, каб дагнаць бойкую Бярэзінку і разам з ёю ўпасці ў магутны Нёман!

Гальшанка кіравалася на поўдзень, а недалёка Ашмянка, наадварот, паплыла на поўнач да Віліі, каб з ёй спаткацца. Між гэтымі нашымі рэчкамі праходзіў водападзел, які называлі «Ашмянскі горб». Ад яго пачыналіся рэчкі Ашмяншчыны. Азёр у нас не было аж да ланцугоў азёр Троцкага і Свянцянскага раёнаў.

І я не быў прывычны да азёр, нават баяўся ў іх купацца — ажно вельмі ўпадабаў слаўнае возера на поўнач ад Вільні «Корве», дзе навучыўся кіраваць лодкай, весляваць і на каньках шмыгаць на ўсю ягоную даўжыню!

Другое возера, што я бліжэй пазнаў — гэта Троцкае, якое, раскідаючы свае рукавы, творыць замковы востраў і абгінае горад Трокі. Яно — чароўная пэрліна ўсяго краю! Не дзіва, што на нашай зямлі нарадзіліся два выдатныя паэты-лірыкі і абодва Міцкевічы: Адам, які, на жаль, пісаў толькі па-польску, і Кастусь (Якуб Колас). Абодва сталі паэтамі сусветнае вартасці. Значыць, наша прырода мае без сумніву вартасць сусветнага характару. Каб яе не марнавалі камуністы сваімі вар'яцкімі эксперыментамі, то яна дала б народу і даволі хлеба, бульбы і ўсяго, а тым важней багаццямі выкапнёвымі і вартасцямі духу! Тут нарадзілася б больш цудоўных паэтаў, мастакоў, артыстаў і філосафаў...

Калі Трабская вуліца спускалася ў даліну да рэчкі, дык Барунская падымалася на гару і вяла да пасьбішча-выгану, на якім расейскае войска, што займала кляштар Францішканаў, адбывала свае муштры, вучэнне і манеўры. А ў дзвюх вярстах ад мястэчка падымалася гара «Гарадзішча», дзе стаяў калісьці замак князёў Гольшаў. Гэта было другое ідэальнае месца для пагулянак-спацыраў і экскурсіяў. Тут ужо не было збытку вады, як на другіх вуліцах, Ашмянскай і Замковай, якія канчаліся млынамі і былі апяразаны трыма ручаямі.

Найглыбейшае ўражанне асталося ў мяне ад навальніцаў, бураў, а і ад грому, маланкі і перуноў! Мы, малыя, абавязкова жагналіся, як засвеціць маланка. А як грымне пярун, тады білі ў грудзі, не так ад набожнасці, як ад страху... Аднойчы на пашы, гонячы быдла дамоў, я адзінокі застаўся на ўзвышшы: дождж ліў як з вядра, а перуны білі па наўкольных узгорках. Але трэба было абавязкова ісці за быдлам. Ніколі датуль не здаралася мне перажыць гэтульки грому і такога акружэння вялізных, густых і нізкіх хмараў! Мне здавалася, што вось-вось ударыць у мяне. І я перажываў навалу адзінюсенькі! Не магу апісаць таго жудаснага страху, і відаць, што Бог мяне шкадаваў, бо я не адчуў пасля ніякага благога выніку ў душы!

Не магу таксама забыцца, што на Ашмянскай вуліцы такія грозныя хмары наступалі з Ашмян. Найперш падымаўся віхор, які замятаў усю вуліцу. Пасля дождж пачынаў капаць буйнымі кроплямі — рэдкімі і цяжкімі, а гром між тым набліжаўся. Нарэшце наступала самая цэнтральная бура з перунамі, што калыхалі хату! Затое якая была радасць, калі канчалася гэта і паказвалася сонейка, даючы ажыўляючую вясёлку. Не ведаю, чаму цяпер і хмары блудзяць лягчэйшыя, і маланка бывае рэдка, дый гром ціхэйшы? А ўжо ж вясёлкі тут не бывае зусім: ледзь можа пару разоў я яе бачыў, дый то худую, як сухотніцу...

Зімою затое, бывала, снягі ападаюць рэгулярныя — глыбокія — і трываюць цэлую зіму: адліга ж як прыб'е, дык становяцца яшчэ трывальшыя. А саначкі — раскоша! І месцы ў нас бывалі складныя, бо навокал узвышша, а знайсці лагоднае месца для спуску не трудна. Дый зімою калёс не зналі, а падарожжа санкамі — самае лагоднае і прыемнае.

*(Працяг будзе).*

# Беларускі дваранін з Падляшша

*Імя гэтага чалавека вы не знойдзеце ні ў даведніках, ні ў энцыклапедыях. Амаль нікому з цяперашніх беларусаў яно, на жаль, нічога не скажа. Не прысвячаліся яму і працы навукоўцаў. Аднак роля, якую ў свой час адыграў ён у гісторыі нацыянальнай культуры, вартая таго, каб гэта імя не было пахавана сярод архіўнага пылу. Чалавек гэты — Кастусь Мацязонскі, беларускі дваранін з Падляшша.*

Ніякіх матэрыялаў, за выключэннем фрагментарных звестак, сабраных у 1950-ых гадах Ул. Юрчакевічам (Львоў) і Ю. Качыем (Ужгарад) не адшукана да гэтага часу. Архіў пярэмышльскай (пшэмышльскай) Грэка-каталіцкай капітулы ў перыяд Другой сусветнай вайны загінуў, але менавіта там павінны былі знахадзіцца дакументы, якія адносяцца да дзейнасці Кастуся Мацязонскага.

У грамадска-палітычнае жыццё краю малады Мацязонскі ўвайшоў як прыхільнік дзекабрыстаў. Хоць асабіста ён да арганізацыі і не належаў, але быў знаёмы з Пестэлем. Грамадскія ідэалы і палітычныя сімпатыі маладога беларускага двараніна фарміраваліся ў значнай ступені пад уплывам вольналюбівай перадавой рускай паэзіі, асабліва пушкінскай. Ён пэўны час перапісваўся з Пушкіным. Ёсць звесткі, што Мацязонскі браў удзел у паўстанні 1831 г., таму і стаў для царскіх улад асобай непажаданай. Дададзім: ён пачынаў набываць вядомасць як аўтар патрыятычных вольналюбівых песень, паступова выходзіў на пазіцыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Пасля разгрому Паўднёвай арганізацыі дзекабрыстаў Мацязонскага не выпускае з поля зроку царская паліцыя. Гэта стала прычынай таго, што ён пакідае роднае Падляшша.

У складзеным у Гродне спісе асоб, якія знаходзіліся пад падазрэннем у спачуванні паўстанцам 1831 г., фігуруе нейкі Канстанцін Харазонскі. Магчыма, што гэта — Кастусь Мацязонскі. На карысць такой версіі гаворыць і тое, што Харазонскі гэтаксама значыўся як «настаўнік спеваў». Іншых звестак пакуль не знойдзена.

Кастусь Мацязонскі быў чалавекам, усё жыццё якога непарыўна звязана з музычнай культурай. Ён вядомы як арганізатар некалькіх харавых калектываў, аўтар апрацоўкі многіх песень, у ліку якіх русінскі (русіны — этнічная група Югаславіі, выхадцы з карпацкіх украінска-славацкіх вёсак) гімн «Я русін быў, ёсць і буду, рускі род свой не забуду», беларуская народная песня «Забяліха», рэвалюцыйная песня ўгорцаў «Устань, мадзьяр, за вольную сваю Айчыну». Мяркуецца, што пакінуць Беларусь Мацязонскага змусілі менавіта блізкія сувязі з паўстанцамі. Улетку 1832 г. Кастусь Мацязонскі з'яўляецца ў Пярэмышлі, дзе прапісваецца як Канстанцін Беларусін, чым ад гэтага моманту пачынае падкрэсліваць сваю прыналежнасць да беларускага народа. У Пярэмышлі Мацязонскі хутка ўваходзіць у асяроддзе перадавой русінскай інтэлігенцыі. Менавіта так сцвярджае украінскі гісторык Н. Петравецкі. Але паводле іншага меркавання, выказанага Ю. Качыем, К. Беларусін з'явіўся ў Пярэмышлі раней, у 1826 г., што звязвае ягоны пераезд не з удзелам у паўстанні 1831 г., а з разгромам дзекабрыстаў.

У Пярэмышлі К. Мацязонскі заснаваў «Славянскі хор», які ў хуткім часе набыў шырокую вядомасць і прызнанне. У рэпертуары калектыву былі беларускія, украінскія, чэшскія, польскія, рускія песні. Але асабліва прыцягвалі фальклярыста песні беларускія, песні роднай зямлі. У гутарках з прыяцелямі Мацязонскі неаднойчы сцвярджаў: «Як шкада, што я ніколі не змагу вярнуцца на Радзіму, а я яе так люблю... Як цяжка жыць на выгнанні...» Слава і папулярнасць «Славянскага хору» надзвычай хутка пашыралася, і, натуральна, гэта не магло не прыцягваць увагі царскай паліцыі і рэакцыйных грамадскіх колаў. У канцы 1832 г. Беларусін патаемна пераязджае з Пярэмышля ў Ужгарад.

Тут Мацязонскі неўзабаве стварае новы хор, таксама «славянскі». Гэты хор спяваў у чатыры галасы, у той час як уся Аўстра-Венгрыя (Закарпацце ўваходзіла ў склад імперыі Габсбургаў) не ведала паліфанічнага (шматгалоснага) спеву. Беларусін у вельмі кароткі тэрмін здабыў агульнае прызнанне. На афішах хору ў якасці кіраўніка значыўся «Канстанцін з Беларусі». Ю. Качый адзначае, што Мацязонскі дасканала ведаў харавое мастацтва — і царкоўнае і свецкае. Русінскі гісторык падкрэслівае, што многія звесткі, а ў ліку іх і ўласная заява Мацязонскага, даказваюць, што Мацязонскі быў беларусам. Падставу сцвярджаць гэта дае і ягоны псеўданім, які нельга лічыць выпадковым.

На працягу ўсяго жыцця Канстанцін Беларусін з'яўляўся перакананым праціўнікам царскай улады, паслядоўна стаяў на дэмакратычных пазіцыях. Вядома, у прыватнасці, што ў перыяд задушэння венгерскай рэвалюцыі 1849 г. ён хаваўся ад казацкіх атрадаў, пасланых у Закарпацце дзеля барацьбы з венгерскім нацыянальна-вызваленчым рухам.

Памёр Канстанцін Беларусін у Ужгарадзе ў снежні 1858 г. Тут і пахаваны. Надпіс, выбіты на помніку, сведчыць: «Тут спачывае Канстанцін Беларусін, заснавальнік хораў. На вечную памяць удзячныя нашчадкі».

Кастусь Мацязонскі адыграў вялізарную ролю ў развіцці музычнай культуры ў Галіцыі і Закарпацці, дзейнасць асветніка спрыяла развіццю музычнага мастацтва розных народаў. Ён быў нястомным прапагандыстам народнай творчасці беларусаў, украінцаў, палякаў, рускіх, выхаваўцам маладых музычных і харавых кадраў. Пакуль нам застаецца чакаць, калі час пральле святло на дагэтуль невядомыя старонкі жыцця гэтага патрыёта.

Юльян ГАЙДУК.

*Заняткі вядзе Валянціна Карлаўна* **РАМАНЦЭВІЧ**

# ПАЧАТКІ

## ЗАНЯТКІ V

*Вочна-завочная школа*

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы ўголас, правільна вымаўляючы зацвярдзелыя зычныя: *жыта, жоўты, чорны, чарніла, джала, панчоха, зачапіць, шэры, шоўк, рэкамендацыя, парадак, сяджу, зводжу, дажджы.*

2. Прачытайце скорагаворкі, запомніце. Прагаварыце хутка тры разы.
а) *Чакі, чыкі, чаканачкі,*
*Ехаў зайчык на саначках.*
б) *Пад пятым пяньком Пеця папаў пяткай па апеньках.*

3. Прачытайце сказы, захоўваючы правілы вымаўлення.
Пашануй адзежу дома, а яна цябе ў гасцях. Хоць і небагаты, але ж не апранаецца ў латы. Кажух грэння не любіць. Дзярэцца, а на новае не бярэцца. Не ганьбуй старым ботам, покі новага не пашыў. Іншы жупан не варты світкі. Чаму ж бы не пан, калі новы кафтан. Што не ў модзе, тое не ў ходзе. Бот не князь, абуў — ды ў гразь. Якія з голага смешкі, калі няма адзежкі. З лапця туфля не зробіш. Свая сярмяжка не цяжка.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

#### ЗАДАННІ

1. Апішыце вусна сваё адзенне.
2. Складзіце дыялог. Сітуацыя на выбар.
* Вы купілі новыя боты (туфлі, чаравікі).
* Вы хочаце заказаць у майстэрні новы касцюм.
* Вам трэба купіць падарунак маці (сястры).
* Новая сукенка вам вельмі падабаецца.
* Парайце, што апрануць сяброўцы ў тэатр.

Пры размове карыстайцеся наступным слоўнікам:

| **Віды тканіны** | **Узоры тканіны** |
|---|---|
| баваўняная | у гарошак |
| ільняная | у кветкі |
| шаўковая | у клетку |
| ваўняная | у кружочкі |
| сінтэтычная | у паскі |
| **Назвы тканіны** | **Дэталі адзення** |
| аксаміт (бархат) | брыж (оборка) |
| бастон | гестка (кокетка) |
| драп | зборка (сукенка са зборкамі, |
| капрон | спадніца ў зборкі) |
| крэпдэшын | каўнер (воротник) |
| крэп-жаржэт | кішэнь (карман) |
| крэп-жакард | манжэта |
| паркаль (ситец) | складка |
| плюш | фальбона (оборка на подоле) |
| сацін | гаплік (крючок) |
| сукно | гузік (пуговица) |
| шавіёт | маланка (молния) |
| | спражка (пряжка) |

3. Хвілінка адпачынку. Каб зняць напружанне, прачытайце (можна і спяваць) прыпеўкі, захоўваючы правілы вымаўлення.

Заспяваем мы прыпеўкі,
Будзем весела спяваць,
Як не будзе вам маўчацца,
Тады можна падпяваць.

Я па садзіку хадзіла,
Пакалола ножкі.
Купі, татка, чаравічкі,
А мамка — панчошкі!

Чаравічкі тупу, тупу.
Бацька кажа: «Куплю, куплю!»
Маці кажа: «Не купляй,
Дачцэ волі не давай!»

Не йграйце музыкі,
Мае лапці вялікі,
І то бацька аплёў
Пра святы Пакроў.

4. Адкажыце на пытанні:
— Што Вы даведаліся новага з тэксту «Печ, печ, памажы!»?
— Чаму так называецца артыкул?
— Як выкарыстоўвалася печ у вясельных абрадах?
— А ў медыцынскай практыцы?
— Якія этычныя нормы паводзін чалавека звязваліся з печчу?

### ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

ПРАЧЫТАЙЦЕ ТЭКСТ.

#### Свой дварочак, як вяночак

Вы заўважылі, напэўна, як наш сучаснік губляецца ў нейкія моманты свайго жыцця — уступлення ў шлюб, нараджэння дзіцяці, провадаў у войска, засялення ў новую кватэру. Так і хочацца, каб нехта мудры падказаў, як і дзе ступіць, што сказаць.

А нашым продкам было значна прасцей: на кожны выпадак існавала ў беларусаў цэласная асэнсаваная сістэма звычаяў і абрадаў. Звычаі і абрады не былі самамэтай ці гульнёй. Яны былі арганічнай часткай духоўнай культуры. Больш таго, продкі разумелі, што лад у сям'і залежыць ад умення ўлічыць шматлікія з'явы ў навакольным свеце, аж да драбнейшых змен надвор'я.

Яшчэ беларусы верылі ў разнастайных духаў — дамавых, палявых, лясных і іншых. Усё багацце прыкмет, павер'яў, звычаяў, абрадавых дзеянняў улічваў кожны селянін, які збіраўся для сябе пабудаваць новую хату.

Будаўніцтва пачыналася з выбару месца і адпаведных матэрыялаў. Гэта ж колькі ўсяго трэба было ведаць і прадбачыць!

Мяркуйце самі. Дрэва на будоўлю, лічылася, лепш за ўсё ссякаць тады, калі месяц знаходзіцца ў сваёй апошняй квадры («ветаху»), тады яно будзе трывалае. А ссечанае ў маладзік нядоўга паслужыць, спілаванае паміж квадрамі месяца сточыць шашаль.

Людзі меркавалі: нельга на пабудову браць вывернутае непагодаю дрэва, бо яго чорт для сябе вывернуў і разам з дрэвам можа перасяліцца ў новую хату. Таксама нельга было ўжываць тое дрэва, што завісала на другім, бо хутка такі будынак згарыць. Вопытны селянін ніколі не браў для будаўніцтва рыплівага дрэва, бо ў збудаванай з яго хаце людзі могуць часта паміраць ці заходзіцца ад кашлю. Не падыходзіла для гэтай мэты і дрэва, што, ссечанае, павалілася на поўнач: у хаце памрэ чалавек, а ў хляве — жывёла. Самымі спрыяльнымі месяцамі для нарыхтоўкі драўніны лічыліся сакавік і красавік, таму што веснавы сок рабіў дрэва мацнейшым.

Вельмі важна было правільна нарыхтаваць мох: гаспадар мусіў пайсці ў панядзелак у лес, наскубці вялікую жменю моху і пакласці на чыстай зямлі. Тое ж самае — у аўторак, сераду і г. д. Падышоўшы ж у нядзелю да тых кучак і падняўшы кожную, глядзеў, пад якою з іх не было мошак, чарвякоў. Толькі ў той дзень тыдня, калі была нарваная гэтая кучка, можна было рыхтаваць мох для будаўніцтва. Значыць, спадзяваліся, што ў хаце не завядуцца казюркі.

Паводле народных уяўленняў, на падмурак нельга было браць каменне з могілак, бо ўвесь час будуць непрыемнасці. Пільнавалі, каб на будоўлю не трапіла дрэва з «ваўком», г. зн. з чорнай сарцавінай,— інакш сям'ю зноў будуць даймаць хваробы і няшчасці.

На Беларусі існавала шмат спосабаў, магічных прыёмаў, якімі карысталіся сяляне пры выбары месца пад хату. Так, аблюбаваўшы нейкую мясціну, ставілі на тым месцы чыгунок з павуком: калі за ноч ён пачынаў «ткаць кросны», то лічылася, што месца пад хату выбрана добрае.

Шырока бытавала і такое павер'е: калі ў посудзе з мёдам, пакінутым на абраным месцы ў выкапанай ямцы на ноч, пад раніцу з'яўляліся мурашы, месца лічылася ўдалым.

У народным штодзённым жыцці шырока бытавала перакананне, што нельга будавацца на спрэчнай дзялянцы зямлі, бо будуць наклікаць праклёны таго, хто спрачаўся і прайграў. Ніколі не ставілі хату там, дзе былі знойдзены чалавечыя косткі, а таксама там, дзе хто-небудзь пасек сякерай нагу ці руку, парэзаўся сярпом, касой, нажом.

Нарэшце, падрыхтоўчыя работы скончаны, за працу браліся цесляры. На тэрыторыі Беларусі шырока бытаваў звычай пры заснаванні хаты класці пад вугал манеты, кавалкі хлеба ці сыру, часам галаву пеўня, што было ахвяраваннем дамавому.

Калі клалі першы вянец, то назіралі, куды паляціць першая трэска: трапіць у сярэдзіну чатырохвугольніка, значыць, будуць прыбыткі ў доме.

Быў звычай пад усе чатыры вуглы класці кавалачак ладану, пасвячоныя зёлкі ці хвойныя галіны, каб засцерагчы дом ад перуноў. Бытавала ўяўленне, што перуны праследуюць нячысцікаў, якія, вядома ж, не стануць хавацца там, дзе ляжыць што-небудзь свянцонае.

Шмат павер'яў было звязана з апошнім вянцом. Так, пры завяршэнні будаўніцтва гаспадар перакідваў праз апошні вянец асвечанае яйка, якое адразу ж закопвалі на месцы падзення, каб вецер не здзіраў страху. Пасля таго як на гарышчы быў высланы мох, па ім сеялі авёс і прысыпалі пяском. Авёс узыходзіў і паступова засыхаў, тым самым забяспечваючы багацце ў хаце.

**Паводле Т. КУХАРОНАК.**

Аб чым Вы даведаліся з народных традыцый будаўніцтва новага дома?

## Новая тэма: Правапіс д—дз, т—ц

1. ПАРАЎНАЙЦЕ ПАРЫ СЛОЎ БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОЎ:
*вада — у вадзе*
*горад — у горадзе*
*работа — на рабоце*
*палёт — у палёце*
*куст — кусцік*

* * *

*вода — в воде*
*город — в городе*
*работа — на работе*
*полёт — в полёте*
*куст — кустик*

**Правіла.** У беларускай мове цвёрдым зычным [д], [т] адпавядаюць мяккія [дз'], [ц'], якія на пісьме перад галоснымі *е, ё, і, ю, я* перадаюцца літарамі *дз, ц: сады — садзік, газета — у газеце, плот — на плоце.*

2. ПРАЧЫТАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ СЛОВЫ, ВЫРАЗНА ВЫМАЎЛЯЮЧЫ [дз'], [ц']: *панядзелак, нядзеля, пацяплела, цяплынь, паціху, ідзіце, пасядзіце.*

3. ПАРАЎНАЙЦЕ НАПІСАННЕ Ў БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ СЛОЎ ІНШАМОЎНАГА ПАХОДЖАННЯ:

| | |
|---|---|
| *тэлефон* | *телефон* |
| *тэатр* | *театр* |
| *дэманстрацыя* | *демонстрация* |
| *інстытут* | *институт* |
| *дэпутат* | *депутат* |
| *тэлеграма* | *телеграмма* |
| *дырэктар* | *директор* |
| *дысцыпліна* | *дисциплина* |

Такім чынам, бачым, што ў большасці пазычаных слоў беларускай мовы зычныя [д], [т] цвёрдыя: *дэлегат, тэлевізар.*

Аднак у словах іншамоўнага паходжання перад суфіксамі *-ін, -ір, -ёр, -еец, -ейск, -ік* пішуцца *дз, ц: камандзір, камандзіроўка, акцёр, індзеец, канверцік.*

ЗАМАЦАВАННЕ.

1. Перакладзіце на беларускую мову: *гардероб, мелодия, декорация, аплодисменты, студент, диктор, тираж, интернат, факультет, репетиция, демократия, конституция.*

2. Назавіце вядомыя Вам словы з [дз'] і [ц']. Запішыце іх.

3. Змяніце словы *народ, жыта, завод, канцэрт, горад, гарод, каманда, білет* так, каб [д], [т] перайшлі ў [дз], [ц]. Са зменёнымі словамі складзіце сказы.

4. Перапішыце тэкст, падкрэсліце літары, ужыванне якіх Вы ўжо можаце абгрунтаваць вядомымі Вам правіламі.

Чытайце штодня не менш як 15—20 хвілін. Псіхолагі раяць: лепш чатыры дні па 15 хвілін, чым адразу гадзіну.

Чытайце найперш выдатных майстроў слова, як, прыкладам, Уладзімір Караткевіч. Праз іх ідзе да нас узорная літаратурная мова.

**Чытайце абавязкова ўслых.** Так лягчэй запомніць прачытанае. Вымаўляючы словы, адчувайце да іх пашану. Праз стагоддзі шматпакутнай беларускай гісторыі яны саграваліся вуснамі нашых прашчураў. Кожнае слова — як благаславенне продкаў Вам, хто ўрэшце вяртаецца да роднай мовы.

## Развіцце гутарковай мовы
## Будынак, двор, сядзіба

**ЯКІ БЫВАЕ ДОМ?**
***деревянный — драўляны***
***кирпичный — цагляны***
***блочный — блочны***
***панельный — панельны***

**ЭЛЕМЕНТЫ ДОМА**
***фундамент — падмурак***
***сруб — зруб***
***крыша, кровля — дах***
***чердак — гара, гарышча*** **(у нежылым памяшканні —** ***вышкі*****)**
***труба — комін***
***окно — акно***
***подъезд — пад'езд***
***дверь — дзверы*** **(толькі ў мн. ліку)**
***крыльцо — ганак***
***ступеньки — прыступкі***
***перила — парэнчы***
***веранда — веранда***
***мансарда — паддашак***

***ШТО КАЛЯ ХАТЫ?***
***двор — двор, панадворак***
***большой двор — дзядзінец***
***погреб — склеп***
***забор из жердей — плот***
***—»— из брёвен — паркан, тын***
***—»— из досок — штыкетнік, шчыкетнік***
***—»— из кольев — частакол***
***ограда — агароджа***
***ворота — вароты***
***ворота, крытые сверху — брама***
***калитка — брамка, веснічкі***
***колодец — студня, калодзеж***
***гараж — гараж***
***будка — будка***
***сарай для скота — хлеў***
***—»— для сена — пуня***
***—»— для дров — павець***
***—»— для повозок — вазоўня***

**ЗАДАННЕ.**

**1. Падкрэсліце словы, пра якія Вы даведаліся ўпершыню.**

**2. Да слоў, якія абазначаюць пабудовы ці элементы дома, падбярыце азначэнні; з гэтымі словазлучэннямі складзіце сказы.**

**УЗОР:** ***брама — старая брама.— Будаўнікі аднавілі старую браму.***




*Рубрыку вядзе*
***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Пасляшэкспіраўская Англія не збяднела на паэтычныя таленты, сярод якіх належнае месца займаюць Джордж Герберт (1593—1633) і Джон Мілтан (1608—1674).

**Джордж ГЕРБЕРТ**

## АДКУПЛЕННЕ

Багаты нехта даў пазыку мне;
Я смелы стаў і думаў: не ўрачэ
Мяне мой лёс — хоць я й не расквітнеў —
Ён мне даруе доўг і дасць яшчэ.

Знайсці ў нябёсах я хацеў яго;
Мне расказалі там, што ён даўно
Ужо на зямлю сышоў, дзеля таго
Каб там набыць каштоўнае майно.

Яго шукаў я па вялікіх гарадах,
Палацах, ды тэатрах, ды садах,
Шляхетнасць знаючы яго; але дакор

І рогат злодзеяў, забойц пачуў,
Калі знайшоў яго. Ён мне шапнуў:
«Пазыку Вам дарую» — і памёр.

**Джон МІЛТАН**

## ТРАВЕНЬСКАЙ РАНІЦАЙ

***(Песня)***

Вястуння ранку, зорка пакрысе
Плыве з Усходу і з сабой нясе
Цвіценне траўня; а яго святло
Пралесак сее бледнае святло.
О шчодры травень! І багацце ўцех,
І маладосць з табой, і звонкі смех.
Лясам, гаям ты падабраў адзенне,
Гарам, далінам даў дабраслаўленне.
Таму прыход доўгачаканы твой
Вітаем песняй радаснай сваёй.

## ПРА СЛЕПАТУ

Падумаю, што я сваё святло
Патраціў да сярэдзіны жыцця,
Што быў схаваны талент мой, хаця
У душы маёй больш схільнасці было
Служыць Тварцу — жаданне вось прыйшло
Паспавядацца дзеля адкрыцця
Таемнай праўды вечнага быцця:
«Што з працы той, калі зрок адняло?»
Цярплівасць кажа мне: «Не хоча Бог
Ні падарункаў, ні пакут людскіх.
І хто цяжар шляхетны валачыць
Прывык па сотнях, тысячах дарог —
Ён, пэўна, служыць лепш Яму за ўсіх,
Дый хто, чакаючы, адно стаіць».

**Пераклад з англійскай**
**Лявона Баршчэўскага.**

***Мама, пачытай!***

**Міхась СКОБЛА**

# *Увосень*



***Халадком дыхнула восень.***
***А увосень — работ восем.***

***А увосень дождж хвошча,***
***Лье халодную ваду,***
***Пажаўцелы сад палошча***
***І мурзатую граду.***

***Хоць далёка маразы,***
***Вінаград штоночы***
***Замярзаў па тры разы,***
***І сказаў аднойчы:***

***«Я і сам ужо не рад,***
***Што жыву, як вінаград,***
***Век дрыжу, а пойдзе град —***
***То па гронках акурат!»***



***Закалеў і клён зусім,***
***Змок без парасоніка...***
***А увосень кепска ўсім,***
***Бо не грэе сонейка.***

***Па гародзе скача шпак:***
***«Тут раней было не так».***

***Апранулі градкі***
***Шэрыя апраткі.***

***Качаны капусты***
***Завязалі хусты.***

***І агрэст па самы нос***
***Затуліўся у бурнос.***

***Агуркі і памідоры***
***Пахаваліся ў разоры.***

***А парэчкі, як кабеты,***
***Панацягвалі гарсэты.***

***А юргіні, як паны,***
***Залатыя жупаны!***

***А сланечнікі, як брацікі,***
***Дамотканыя кабацікі.***

***І ляжаць гарбузікі,***
***Як на сукні гузікі.***

***Зазлаваў адзін бурак:***
***Не налазіць андарак,***
***Стаў чырвоным, нібы рак,—***
***Не бурак, а небарак!***

***А гарбуз залез на плот,—***
***Пільная патрэба,—***
***«Надакучыў мне гарод,***
***Я хачу на неба!***

***Буду гушкацца ля хмар,***
***Выціраць аб хмары твар.***

***І глядзецьму, як на роўню,***
***Я на зоркі і на поўню.***

***Я не горай пасвячу.***
***Я амаль ужо лячу-у!»***

***Ды ў гарод упаў гарбуз***
***І набіў вялікі гуз.***



***Бульба ў мех і — да варот,***
***Зарыпелі сходні:***
***«Пакідаю я гарод,***
***Еду да Гародні.***

***Там дамы — да неба аж!***
***Я паеду на кірмаш».***

***...Восень з выраю ідзе,***
***На палетках рэй вядзе.***

***Вы барвяны там і тут***
***Бачылі яе сурдут?***

***Алег БЕМБЕЛЬ***

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—42).*

— Позавчерашние рассуждения: если б захотели!.. Они лучше изучили бы французский язык — это было бы гораздо полезнее для белорусской культуры...

...Если бы партизанские повести Адамовича были написаны по-белорусски, они опоздали бы на несколько лет к широкому кругу читателей. А в наше время потеря даже нескольких месяцев может оказаться трудно восполнимой...

**Нужно создать такую мощную культуру, чтобы ей заинтересовались!** А не повторять бесконечно посредственные мысли какого-нибудь поэта — как он любит родную мову...

Чтобы прочесть Купалу, Богдановича, Барадулина — стоит изучить этот язык. Но нужно иметь Шекспиров в рамках своей культуры, чтобы заставить других добровольно, а не принудительно это делать...

Отгораживаясь моўным барьером, мы делаем бесполезное дело...

...Почему мою книжку должен читать только сельский школьник?.. Сельский — не поймёт её потому, что она для него сложна, а городской — потому, что не знает мовы... Родная мова становится для меня тормозом в служении родной культуре!.. Смешно — но это так... Я вырос в этой культуре, и я хочу служить ей. А получается, что мова меня от неё отгораживает...

Это — организационные аспекты. Здесь речь идёт не о моём отношении к мове.

Вопросы о сущности языка — в конкретно-исторической ситуации.

Названные противоречия присущи и русскому языку, но там это менее заметно. Чтобы ощутить их, нужно рассматривать его в масштабах не СССР, а земного шара. Со временем немало острых проблем будет и у русского языка...

Я хочу, чтобы была глубоко прочувствована сложность проблемы...

Слова Нила Гилевича верны по отношению к молодым литераторам и верны в перспективе ближайших 10-летий и столетий. Что же касается тысячелетней перспективы — то это элементарное донкихотство. Нужно читать Маркса, Энгельса, Ленина и других...

Через 200 лет белорусский язык будет не такой, как сейчас, и на него нужно будет переводить Гилевича, чтобы те поколения молодых литераторов могли его понять...

Мысль Глебки, может быть, и верна... В такой иронической интонации он говорит по существу и правильно...

«...Мовы і нацыянальнасці не знікнуць...» Но не с тем уровнем патриотизма... Совсем иные признаки патриотизма станут — чем просто отношение к мове...

Латынь — мёртвый язык, но на нём писали ещё очень долго...

Можно создать кружок любителей древнерусской поэзии и говорить на этом языке. Но зачем же всех заставлять делать это?..

Мова совершенно не должна отживать в том смысле, как пишет Барадулин. Она отомрёт только в том случае, если мы будем мыслить (компьютерно)... А если будет культура, народ — будет и литература. А она всегда будет на языке...

Существует несколько белорусских языков. Все развивают те пласты мовы, на которых они выросли...

Дело в том, ч т о говорится на этом языке, о ч ё м... То, что говорит Барадулин — интересно, здесь и мова дарэчы. А то, что говорит Сталин — то будь это четырежды на белорусском — мне это неинтересно...

...(чытае Танка)... Что такое «бяссмерце народа?»... Мы ведь материалисты, марксисты. У нас есть достоверные данные — и о том, что будет... Смертны ли древние римляне, носители латыни?.. Этнические признаки определяют народ — или ещё какие-либо?..

Открой сегодняшние границы — без разбоя,— и всё перемешается, выведется новая раса. Что является хранителем чистоты народа?.. **Границы!** Вот они и стерегут этническую чистоту и чистоту мовы — и всё... Когда-то говорили: коммунизм сметёт все границы. И он сметёт их!..

Хотел бы я видеть хоть одного чистого белоруса... Сколько кровей здесь смешалось!..— если копнуть генеалогическое дерево... Что ж это за «чистота»?..

Всё это — сиюминутное. Всё это подлежит всестороннему марксистскому анализу. Жизнь всё определяет, целесообразность...

Я говорю с соседом на том языке, на котором со мной говорит сосед... Чернигов — Иолга, где Белоруссия сапожком в Украину заходит, — как постепенно меняется мова!.. И люди великолепно друг друга понимают...

По форме все мои рассуждения — антипатриотичны. Но вопрос патриотизма очень сложный. Он — в объективной реальности, данной нам не только для ощущения, но и для размышления...

«...О, які брыдкі чалавек!.. Выракся роднай мовы, здрадзіў матчынай мове!..» А што ён сам робіць?.. ...Я б ездзіў у госці да маткі, каб тут не была такая ванна... Тут — Акадэмія, плацяць грошы... Дык ты, матуля, гадуй там карову, а я табе на лета дзетак прышлю...

К одному пісьменніку прыехала маці. Встала утром, смотрит в окно: — Слухай, сынку, гэта ўсё пісьменнікі?..

Я никогда не опасаюсь за судьбы белорусского языка — на нём создана прекрасная литература, о ней будут помнить всегда...

Но на этом языке делаются вещи — несовместимые с гонарам нацыянальным. Дело не в языке, а в том, ч т о и в о  и м я  ч е г о говорится на этом языке...

...(чытае ліст «маскоўскага беларуса»)...

...Правильно — транспортные связи. Интересный человек письмо пишет. Транспорт, оказывается, влияет на язык. И это правильно: тенденция сделать язык во что бы то ни стало непонятным — это регрессивное явление. Критерий прогресса языка — краткость, ясность, точность... Сегодня белорусы не понимают белорусского языка — это он правильно заметил...

Тут уже крайность — «зачем развивать»?..

Мележ хорошо показал, что современный белорусский язык за счёт диалектов может обогащаться...

...(чытае пытанне: «...большасць беларусаў пакіне сваю мову?..»).

Вопрос неправильно поставлен: нет такого процесса — «пакідання мовы». Ты яе кідаў?.. Нет. Ты сделал над собой усилие и превратил её в частичное средство общения в определённой ограниченной среде...

Вот мы, два интеллигента, ведём разговор о судьбах белорусского языка на чистейшем русском языке...

Пародия — когда на трибуну выходит Ш. і пачынае тлумачыць, што Беларусь — спрадвечная дзяржава... Усялякая нацыянальная пыха — гэта ой-ёй-ёй... Или когда на трибуну поднимается деятель с явно семитской внешностью и говорит: — Мы цяпер ужо не тыя рускія, што былі раней...

«...жывымі носьбітамі і захавальнікамі...» Носьбітаў мовы — тысячы, дзесяткі тысяч. Культуры — сотні тысяч (Как и десятки тысяч носьбітаў латыні...)

Перевод «Фауста» — это явление б е л о р у с с к о й культуры. Это — самосознание сегодняшнего белоруса. Это — показатель развития языка, необходимости и в о з м о ж н о с т и ощутить в себе явление, называемое «Фаустом»...

*(Працяг будзе).*

Горас МАККОЙ

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—42).*

## 11

Прачынаючыся, перад тым як расплюшчыць вочы, я адчуў, што і ў ложку, і ў пакоі нешта не тое. Цела побач са мною было грубае і непрыемнае, паветра было спёртае. Прысеўшы ў ложку, я ўбачыў, што са мною спаў Джынкс. Я ўстаў, падышоў да вакна і павярнуў шпінгалет. Адразу ж адчулася свежае ранішняе паветра. Я вярнуўся да ложка і сарваў з Джынкса коўдру. Гэта патрывожыла ягоны сон, аднак не разбудзіла. Тыльным бокам далоні я ляпнуў яму па твары, а потым пачаў трэсці. Ён узняў галаву, ашаломлены, з куткоў рота цекла сліна.

— Што... што... — мармытаў ён.

— Колькі разоў табе трэба казаць, каб ты не зачыняў на ноч вакно?

— Яно было адчыненае, — працёр вочы Джынкс, — калі мы клаліся. Я яго не зачыняў. Вецер, мабыць.

— Які вецер! Шпінгалет быў зачынены. Вецер...

— Ва ўсякім разе, не я. Значыцца, Холідэй.

— Вядома. Гэта ў яе стылі... А легчы табе тут таксама яна сказала?

— А хто ж? Яна проста ашалела, што цябе так доўга не было...

Я прайшоў у гасцёўню. Холідэй ляжала на канапе, пад коўдраю, з цыгарэтаю ў роце; толькі я паглядзеў на яе, як адразу ж зразумеў, што завялася яна ўжо добра. Усмешка ў яе была проста сучая. Было відаць, што прачнулася яна даволі даўно і так і чакала, як я прачнуся і ўбачу вакно зачыненым, Джынкса ў сябе ў ложку, а яе — у гасцёўні. І тут я адчуў, што не ведаю, што і сказаць ёй, да таго ненатуральна павяла яна сябе, калі легла спаць, не прычапіўшыся да мяне. Выходзячы з дому, я сказаў, што пайду крыху прагуляюся, а адсутнічаў пяць гадзін. Калі я вярнуўся, дома нікога не было, і я лёг спаць, упэўнены, што калі яна прыйдзе, то адразу ж разбудзіць мяне і ўздыме жудасны гвалт. А яна чамусьці гэтага рабіць не стала. Але проста так гэта ўсё закончыцца не магло — відаць, яна хацела, каб першы не вытрымаў я.

«Добра, сучае стварэнне, — падумаў я, — паглядзім, у каго з нас нервы слабейшыя».

— Дзень добры, — сказаў я ветліва.

— Як ты сябе адчуваеш? — спыталася яна абыякавым голасам, усё роўна як у нас быў звычайны абмен ветлівасцямі.

— Цудоўна, — адказаў я. — Я тут надумаўся каву згатаваць. Ты будзеш?

— Я сама зраблю, — сказала яна.

— Не, зраблю ўсё-такі я, гэта мне няцяжка, — сказаў я і пайшоў на кухню. Холідэй так і ела мяне вачыма. А неўзабаве сама прыйшла на кухню. Стала ля дзвярэй з новай цыгарэтаю ў роце, пацягнулася і лісліва запыталася:

— Ты добра выспаўся?

— Выдатна, — адказаў я, ставячы каструлю на пліту.

— Не замёрз і горла не баліць?

— Не. І не замёрз, і горла не баліць. А што ты так дзівішся?

— Зусім не дзіўлюся. Проста думаю, што зачыніла вакно якраз у час. Гадзіны ў дзве ночы падзьмуў моцны вецер. Я не хацела, каб ты прастудзіўся.

— Прастуда і праўда даўно ўжо мяне пільнуе. Я не прастываў гадоў ужо дзесяць-дванаццаць.

— Прастыць вельмі лёгка, асабліва калі стомлены. Сёння ноччу ты быў вельмі стомлены. Ты не ўяўляеш, які ты быў спляжаны.

— Магу ўявіць. Я нават не пачуў, як ты вярнулася.

— Ты нават не чуў, як побач з табою лёг Джынкс. Ты ўсё роўна як аглушаны быў. — Яна выкінула цыгарэту ў ракавіну, і сучая ўсмешка зноў вярнулася на яе твар: — Ты ж не прывык гуляць так доўга. Калі б я ведала, што твой шпацыр зацягнецца на пяць-шэсць гадзін, дык нізавошта не адпусціла б цябе. Ты ж сказаў, што выйдзеш крыху прагуляцца...

— Я быў у тэатры...

— Няўжо?

— Я не хадзіў у тэатр ужо тры гады. А п'еса была вельмі цікавая.

— Пэўна ж! Здаецца, яна мае «Кадзілак», гэтая п'еса! Ну вось. Пачалося...

— «Кадзілак»? Пра што ты?

— Пра цёлку, якую вы сустрэлі з Джынксам пазаўчора. Хіба ў яе няма «Кадзілака»?

— Не ведаю, якая ў яе машына. Я бачыў яе толькі таго разу. Я не ведаю ні яе імені, ні яе адрасу і не змог бы яе знайсці, каб нават і захацеў бы.

— Для такога разумніка, як ты, гэта няцяжка...

— Я табе ўжо сказаў, што хадзіў у тэатр. У мяне не было ніякіх спатканняў ні з якой дзяўчынаю.

— Свіння ты хлуслівая! — выкрыкнула яна і змахнула рукою з пліты каструлю. Кава разлілася па лінолеуме. — Ты забаўляўся з нейкай мачалкаю, а я тут звязалася ўся, сучы ты хвост! — Рот у яе быў скрыўлены, вочы — поўныя нянавісці.

Яна схапіла са стала кубак і кінула мне яго ў грудзі, абліўшы мяне вадою. Я падскочыў да яе, схапіў за плечы і з усяе сілы кінуў на ўмывальнік. У яе ажно грудзі вываліліся з халата. Зноў падскочыўшы да яе, я моцна сціснуў яе рукамі за горла.

— Я хадзіў у тэатр, чуеш, я хадзіў у тэатр!

Яна спрабавала крычаць і адбівацца, але я заціснуў яе ногі паміж маіх і ўчапіўся ў горла так, што яна ўжо і паварушыцца не магла.

— Я хадзіў у тэатр. Скажы гэта. Скажы мне, што я хадзіў у тэатр.

Я трохі аслабіў хватку, каб яна магла гаварыць.

— Ты хадзіў у тэатр...

Пачуўшы гэта, я адпусціў яе. Яна паправіла халат. Усмешкі на твары ўжо не было, але ў вачах усё яшчэ заставалася нянавісць. Я выйшаў з кухні...

Джынкс выходзіў з ваннай.

— Прашу цябе з гэтага дня не раскрываць залішне зяпу, — кінуў я яму. — Навошта ты сказаў ёй учора, што я на спатканні з той мышкай?

— І не заікаўся нават.

— А як тады Холідэй даведалася, што ў яе ёсць «Кадзілак»?

— Пра гэта сказаў, а больш — ані слова. Гэта Мандан вырашыў, што ў вас спатканне, вось і сказаў ёй...

— Мандан? — здзівіўся я. — Дзе вы яго бачылі?

— Тут.

— А што ён тут рабіў?

— Холідэй пазваніла яму і папрасіла прыйсці...

— Навошта?

— Яна баялася, што цябе прыхапілі выжлы.

— Гэта яшчэ раз пацвярджае, да чаго ж яна дурная. Выжлы мяне ўжо прыхапіць не насмеляцца...

— Аднак і Мандан непакоіўся. Мы выйшлі апоўначы перакусіць, і ён сказаў, што калі ты не вернешся да таго, як вернемся мы, ён пачне цябе шукаць. Але ты якраз вярнуўся.

— Вядома, вярнуўся! — узарваўся я. — А як вы думалі? Ну і людзі! Варта мне высунуць нос на вуліцу, як вы адразу ж абхезваецеся. Я, па-мойму, не маленькі і ведаю, што раблю!

— Вядома, вядома, — сказаў ён і выйшаў.

Я прайшоў у ванную і адчыніў кран з халоднай вадою. Узняўшы вочы, я ўбачыў у люстры, як Холідэй прайшла ў спальню з маім пінжаком у руках і паказала яго Джынксу. Я зачыніў кран і падышоў да іх.

— Паглядзі, — паказала яна пінжак мне: на ім былі дзве-тры травінкі. — Будзеш мне яшчэ тут пра тэатр расказваць!

Я вярнуўся ў ванную, адчыніў усе краны, спусціў ваду ў туалетным бачку, але нішто не магло перакрыць яе смеху.

## III

Мандан сядзеў за пюпітрам.

— Моцна ж вы сёння спалі, — усміхнуўся ён.

— Калі б я ведаў, што вы прыйдзеце з імі, то з задавальненнем дачакаўся б вас.

— Годзе, годзе, не трэба сердавацць.

— А вы што, чакаеце, што я буду смяяцца з радасці? Вы ж мяне падставілі. Адкуль вы ведалі, што ў мяне спатканне?

— Даведаўшыся пра ўсё, няцяжка было зрабіць такую выснову.

— Адгэтуль я хацеў бы, каб вы рабілі высновы не супраць мяне, а мне на карысць!

Мандан узняўся:

— Я толькі хацеў супакоіць Холідэй. Яна думала, што вас забралі ў паліцыю, і я палічыў за лепшае, каб яна злавала на вас, чым гэтак трывожылася. Вы не згодны са мною?

— Згодны, — буркнуў я.

Аргумент Мандан знайшоў. Аднак падмануць мяне не мог. Няхай яны грызуцца, думаў, напэўна, ён, вар'яцеюць, і ўрэшце нават аднарукі зможа ўзбіць сабе з гэтай смятаны масла...

— Аднак не дзеля гэтага я да вас прыйшоў, — сказаў я. — Уэбэр аддаваў мне бабкі, і я хацеў іх забраць, але вы сказалі: «Крыху пазней». Дык, мабыць, настаў ужо час?..

Мандан падышоў да пюпітра, падняў вечка і дастаў вялікі жоўты канверт.

— Для маладога чалавека ў вашым становішчы ёсць рэчы, нашмат важнейшыя за грошы, — працягнуў ён мне канверт.

Я сарваў металічную стужку, што змацоўвала канверт, і адкрыў яго. У ім была мая антрапаметрычная картка, з адбіткамі пальцаў, з фатаграфіямі ў профіль і ў фас, з выкладам усіх памераў галавы і апісаннем шнараў і астатніх фізічных асаблівасцяў... Гэта была асноўная картка, арыгінальная, з крымінальнага архіва горада, дзе мяне судзілі! Як яна магла трапіць да яго!..

— Цяпер вы бачыце, што адбываецца, калі вы давяраеце мне весці вашы справы, — пераможна ўсміхнуўся ён.

— Вы чараўнік. Здымаю перад вамі капялюш...

Без гэтай карткі паліцыя была супраць мяне бяззубая. Мая мінуўшчына была сцёртая, я яе больш не меў...

— Не разумею ўсё-такі, як яна магла апынуцца ў вас, — сказаў я. — Гэты горад — за паўтары тысячы кіламетраў адсюль...

— Я прапанаваў Уэбэру пакінуць сабе грошы, але даць узамен гэтую картку. Ён атрымаў яе ўчора ўвечары. Яму няцяжка было гэта зрабіць: адзін тэлефонны званок калегу. Ну што, зладзім маленькую цырымонію?

Ён дастаў з кішэні запальнічку, запаліў яе і выцягнуў руку. Я падставіў картку. Кардон зморшчыўся, парудзеў і, нарэшце, загарэўся. Калі ўсё згарэла, за выняткам ражка, я задзьмуў агонь, расцёр попел далонямі і ссыпаў яго ў сметніцу. Потым падышоў да куфра, наліў у міску вады з графіна і вымыў рукі.

— Думаю, вы павінны забыцца на гэтыя грошы, — сказаў Мандан.

— Я таксама, — адказаў я, выціраючы рукі.

Гарадскі паліцэйскі ўчастак месціўся ў самым цэнтры старых кварталаў...

Калі мы з Манданам увайшлі ў велізарны хол гэтай строгай будыніны, ён адразу ж накіраваўся да туалета, даўшы мне знак ісці ўслед за ім. У туалеце нікога не было.

Мандан хутка павярнуўся да мяне:

— Дайце мне рэвальвер.

— Які рэвальвер? — зрабіў я здзіўлены выгляд.

— Я выдатна бачыў, як вы пераклалі яго з задняй кішэні штаноў у кішэню пінжака. Нервуецеся? Дайце мне яго, дзівак-чалавек, і хутчэй!

Я пацiснуў плячыма і аддаў яму свой пугач. Ён паклаў яго ў кішэню...

— Я зраблю вам пасведчанне аб праве на нашэнне зброі, — ужо спакойна дадаў ён у калідоры.

Падышоўшы да дзвярэй з шыльдаю «Крымінальная брыгада», Мандан адчыніў дзверы, і мы ўвайшлі ў кабінет... Там быў пузаты сяржант, і Мандан прадставіў яму мяне як свайго новага сакратара па імені Поль Мэрфі. Мандан спытаўся, дзе цяпер Уэбэр, і сяржант адказаў, што яго няма... Развітаўшыся з ганчаком, мы выйшлі з кабінета і рушылі па калідоры да выхаду. Але як толькі мы пачалі спускацца па лесвіцы, Мандан раптам дакрануўся да маёй рукі і спыніўся. Насустрач нам падымаліся Уэбэр і Рыс. Мы пачакалі іх на пляцоўцы.

— Чарлі! Олівэр! — павітаў іх Мандан.

Яны рэзка прыпыніліся. Рыс употайкі зірнуў на шэфа. Той глядзеў на мяне. Выраз ягонага твару адразу ж стаў цвёрды, вочы звузіліся.

— Можна затрымаць вас на хвілінку, Чарлі? — спытаўся Мандан.

— Я вас слухаю.

Я ўсміхнуўся, падумаўшы, што нарэшце настаў момант, калі я павінен узяць уладу ў свае рукі. Я не забыўся на нашу першую сустрэчу ў кватэры Холідэй, на той страх, які праняў мяне аж да кішак, на тое, як яны абышліся са мною — такія рэчы ніколі не забываюцца... Адгэтуль настала мая чарга аддаваць загады.

— Пройдзем у ваш кабінет, — сказаў я.

Уэбэр мала не закалаціўся, але ўсё-такі рушыў да свайго кабінета. Рыс пайшоў за ім, мы — ззаду. Мандан умольна паглядваў на мяне, каб я хоць трохі захоўваў дыстанцыю паміж намі і выжламі, але я не зважаў на гэтыя позіркі. Перад дзвярыма ў канцы калідора інспектар спыніўся, адчыніў іх і адышоў убок, прапусціўшы ў пакой мяне з Манданам.

— Дзякуй, інспектар, — сказаў я.

У кабінеце ў інспектара быў невялікі стол, чатыры крэслы і лаўка са светлага паліраванага дрэва. Інспектар зняў куртку і кінуў яе на крэсла, а фуражку паклаў у стол. Потым узяў нейкія паперкі, хутка прабег іх вачыма — словам, разыграў з сябе высокага функцыянера, перагружанага працаю.

— У мяне яшчэ не было мажлівасці падзякаваць вам за канверт, які вы перадалі сёння ўранку пану Мандану, — сказаў я. — Я вельмі ўдзячны вам за гэты высакародны жэст...

— Не варта на гэтым спыняцца, — абсек ён. — Што вас сюды прывяло?

— Я хацеў бы атрымаць пасведчанне аб праве на нашэнне зброі на імя Поля Мэрфі, — адказаў Мандан.

— Хто гэта — Поль Мэрфі?

— Ён, — кіўнуў на мяне Мандан. — Я думаю, яму ёсць сэнс памяняць імя.

— Вы ж ведаеце, што гэта не ў маёй кампетэнцыі, — адказаў Уэбэр.

— Толькі начальнік паліцыі можа даваць пасведчанне аб праве на нашэнне зброі, — сказаў Рыс.

*(Працяг будзе).*



У полацкім Сафійскім саборы адбыліся сольныя канцэрты вядомага арганіста і кампазітара з Гамбурга Эрнста Ульрыха фон Камэке, выканаўчай творчасці якога ўласцівы адметны каларыт і непаўторнасць.

**На здымку:** канцэрт у Сафійскім саборы.

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**
**Белінфарм.**

*Павел МІСЬКО*

## *«Каня рушу, ехаць мушу...»*

— Ганна, ты ўжэ з крывулькаю тэпаеш?

— Маўчы, нябога... Гэта ж пакацілася была каля лаўкі. Дак крамшчыца выбегла на голас, падхапіла пад рукі: «Што з вамі?» А я з болю голаса не адцягну, квахчу, як квактуха... Доктар пасля трэшчыну... во тут, ля калена... вышукаў. Месяц у ляшчотках нага была, ледзь адбаярылася ад тае лякарні... А ты ўсё малога пасеш? Кінь, не ўлягай вельмі: такі ўжо ў крапіву не залезе.

* * *

— У попрадкі хацелі да Кардашыхі... Тыцнуліся на парог, а яна крыжам стала, не пусціла далей: падлогу пакостам зліла, фарбіць збіраюцца... Колькі там мінютачак пастаялі — пачадзелі ажно... А Макрына з унучкам прыйшла, дак той скакець на бліщчастае, думаў пакоўзацца, як на лёдзе. І ўліп! Тузаецца — гэп і рукамі, прыстаў. Дак Макрына сцягнула яму штонікі да па адной мордзе, па другой.

— Пакост — што... От каб польскім лакам паквецалі да надыхаліся... Дзіркі б у лёгкіх напраядаў!




### ЛЯЧЭННЕ ПЧАЛІНЫМ ЯДАМ

Гэта стары і адначасна новы метад лячэння. Вядома, што яшчэ Гіпакрат і Гален рэкамендавалі лячыцца ўджаленнем пчол. Добрыя вынікі, якія атрымала народная медыцына за стагоддзі прымянення гэтага сродку, прымусіла ўрэшце медыкаў звярнуць сур'ёзную ўвагу на дзеянне пчалінага яду пры розных захворваннях. Людзі навучыліся браць у пчол яд тэхнічным спосабам, распрацавалі метады яго выкарыстання ў медыцынскай практыцы, наладзілі прамысловы выпуск прэпаратаў пчалінага яду. Паралельна распрацоўвалася методыка лячэння людзей мёдам, прополісам, пяргой, воскам. У медыцыне аформіўся новы раздзел — апітэрапія. Без перабольшання можна сказаць, што ў пяцідзесятыя – васьмідзесятыя гады чалавецтва перажыло момант вялікага захаплення мёда- і ядалячэннем. У 1974 г. у Мадрыдзе (Іспанія) адбыўся міжнародны сімпозіум па праблемах апітэрапіі, на якім былі падведзены вынікі сумеснай работы медыкаў і пчалаводаў. Міжнародны інстытут тэхналогіі і эканомікі пчалаводства АПІМАНДЗІН апублікаваў зачытаныя на сімпозіуме даследаванні, якія склалі васьмідзесятую па ліку кнігу прац па дадзенай праблеме.

Пчаліны яд таксічны. Ён выклікае пачырваненне і ацёк скуры, павышэнне тэмпературы, а часам такую цяжкую алергічную рэакцыю, якая прыводзіць да смерці. Найбольш адчувальныя да пчалінага яду дзеці, жанчыны і пажылыя людзі. Асабліва небяспечныя ўджаленні ў галаву, вочы, шыю, горла, міндаліны, нёба. Што да дзяцей, то лячыць іх пчалінай ядам можна толькі ў крайнім выпадку, напрыклад, пры ўпорнай форме рэўматызму.

У невялікіх дозах пчаліны яд — лякарства, якое садзейнічае актывізацыі засцерагальных сіл арганізма, павышае яго супраціўляльнасць. Выяўлена антаганістычнае дзеянне пчалінага яду на таксіны стафілакокаў і слупняку. Лічыцца, што пчаліны яд — адно з самых моцных супрацьмікробных рэчываў.

Вітамір ТЭАФІЛАВІЧ

## Сведчанні аптымізму

У тым, што адбываецца сёння, віны не мае ніхто. Усе маюць заслугі.

* * *

Пакуль не наткнулася на нас, гісторыя рухалася назад.

* * *

Па дарозе з слаўнай мінуўшчыны ў светлую будучыню забрылі мы ў сучаснасць.

* * *

У апошняй фазе развіцця дасягнулі мы застою.

* * *

Мы гэтак заблыталіся ў сутнасці праблем, што не здольныя выкараскацца.

* * *

Каршуны прапаноўваюць дыялог галубам. Запрашаюцца і канарэйкі.

* * *

Многім сапраўды падабаецца цвёрдая рука. Але свая.

* * *

Дзяржава — гэта і я.

* * *

«Маўчанне — золата»,— кажуць прамоўцы.

* * *

Хто сказаў, што мы ў стагнацыі? Нашыя праблемы ўсё растуць і растуць!

* * *

Фарс лонга, віта брэвіс.

* * *

Хто знойдзе неўзнагароджанага функцыянера, атрымае ўзнагароду.

* * *

На траянскім кані ездзяць усярэдзіне.

* * *

Пры галасаванні памылак быць не можа. У спісах найлепшыя.

* * *

І мы таксама частка свету. Па волі абставін.

* * *

Самавыбары далі жаданыя вынікі.

* * *

Мы ўжо пазбавіліся доўгатэрміновых праблем. Застаюцца толькі тыя, што ад сёння да заўтра.

* * *

Паміж гіенай і шакалам розніца ёсць, аднак неістотная.

* * *

Мяне аб'явілі ідэальным грамадзянінам. Нават з выварату не маю асабовых знакаў.

**З сербскахарвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.**

## Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі:** 5. Кружево. 6. Покров. 9. Таинственность. 12. Жажда. 13. Обозрение. 14. Магазин. 17. Мерёжа (рыбная снасть). 18. Усталость. 19. Чудо. 20. Везде. 25. Тонь. 26. Тетерев. 27. Танцы, пляска. 30. Созерцание. 31. Ухищрение, уловки. 32. Оттенок.

**Па вертыкалі:** 1. Родина. 2. Слог. 3. Жёлчь. 4. Сознательный. 7. Дымка, туман. 8. Комок. 10. Смотрины. 11. Общественный. 15. Багрянец 16. Тяж (в повозке). 21. Март. 22. Целина. 23. Взятка. 24. Кожаный. 28. Слух, молва. 29. Карий (о масти лошади).

**Падрыхтаваў Віктар СУХАРАЎ.**
**г. п. Бялынічы.**

## ДА ЎВАГІ БЕЛАРУСКАЙ ШЛЯХТЫ

*1 лістапада 1992 года ў Доме літаратара адбудзецца ўстаноўчы сойм Згуртавання Беларускай Шляхты.*

*Рэгістрацыя ўдзельнікаў а 9-ай гадзіне, пачатак а 10-ай.*

*Запрашаюцца ўсе нашчадкі шляхецкіх родаў і ўсе тыя, хто цікавіцца сваім радаводам.*

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Рэдактар Эрнэст Ялугін.**

**Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.**

**Адказны сакратар Віктар Шніп.**

**Наш адрас:** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».

Наклад 7109 паасобнікаў. Зак. 1201. Індэкс 63865.